*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 47(103) ◈ 25 лістапада 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## *У сувязі з угодкамі Слуцкага паўстання*

З Аўстраліі прыйшоў ліст ад лідэраў беларускай эміграцыі спадароў Міхася Зуя і Віталя Цярпіцкага. Яны вітаюць грамадзян Беларусі з 72-мі ўгодкамі Слуцкага паўстання, якое выбухнула 21 лістапада 1920 года супраць бальшавіцкага ўціску, нацыянальнага здзеку і ўціску сялян. Случчакі, адзначаецца ў лісце, баранілі ад нялюдскага здзеку не толькі сябе, але і ўсю Беларусь. Памяць пра тое засталася назаўсёды ў беларускай свядомасці.

Выказваецца трывога, што ў Рэспубліцы яшчэ і цяпер кіруе фактычна старая камуністычная гвардыя, якая пагарджае нацыянальнымі інтарэсамі народа.

Аднак, гаворыцца ў лісце, верым, што наша агульнае змаганне за вольную Беларусь дапаможа ёй стаць у шэраг квітнеючых краін свету, а тое, што робіць дзеля гэтага беларуская эміграцыя, знойдзе цёплы водгук на Бацькаўшчыне.



Дзяды: запальванне свечак памяці перад будынкам МУС (колішні НКУС) у Менску.
Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, Белінфарм.

# ПАРУШАНЫ ПРАВЫ НАРОДА

**Так лічыць Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, якая распаўсюдзіла адпаведную Заяву**

**Пастанова Вярхоўнага Савета РБ ад 29 кастрычніка 1992 г., у якой праігнаравана ініцыятыва больш як 442 тысячаў грамадзянаў аб правядзенні рэферэндуму адносна роспуску цяперашняга парламента і правядзення датэрміновых выбараў,— гаворыцца ў Заяве,— сведчыць пра адкрытую пагарду да рэалізацыі неад'емнага права народа на волевыяўленне. А тым часам,— гаворыцца ў Заяве,— кіруючая большасць у Вярхоўным Савеце, якая так нічога і не зрабіла для паляпшэння жыцця народа, засведчыла на гэтай сесіі выразныя тэндэнцыі, накіраваныя супраць існавання беларускай дзяржавы і беларускай нацыі. Гэта выявілася ў непрыняцці новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у тармажэнні эканамічных пераўтварэнняў, у непавазе да дзяржаўнай беларускай мовы і сімвалаў беларускай дзяржавы, у імкненні ўцягнуць нейтральную Беларусь у ваенны блок з Расіяй, у спробах захаваць адміністрацыйна-сацыялістычны лад і аднавіць КПБ — КПСС. Антыдзяржаўная палітыка ёсць палітыка антынародная, бо, не маючы сваёй дзяржавы, народ не можа распараджацца вынікам сваёй працы.**

**Дэпутаты Апазіцыі заявілі таксама аб сваім намеры і надалей змагацца ўсімі законнымі сродкамі за выкананне Канстытуцыі і не дазволіць бесперашкодна парушаць правы чалавека, зневажаць духоўныя і матэрыяльныя інтарэсы народа, дыскрэдытаваць, карыстаючыся сваёй беспакаранасцю, беларускую дзяржаву.**

**Заяву падпісалі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь: З. Пазьняк, В. Голубеў, Г. Сямдзянава, С. Навумчык, Л. Зданевіч, Г. Грушавы, С. Антончык, У. Заблоцкі, Ю. Беленькі, Л. Тарасенка, С. Папкоў, Я. Новікаў, І. Германчук, Л. Баршчэўскі, Л. Дзейка, П. Холад, А. Шут, А. Трусаў, В. Какоўка, М. Аксаміт, Я. Глушкевіч, М. Крыжаноўскі, С. Бабачонак, М. Маркевіч, А. Паруль, І. Пырх, Я. Бядулін, В. Малашка, В. Алампіеў, М. Мацюшонак, С. Слабчанка, Я. Цумараў.**



## ПОСТУП ТЫДНЯ

***18 ЛІСТАПАДА Ў КАНФЕРЭНЦ-ЗАЛЕ ДОМА ЛІТАРАТАРА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ, НА ЯКІМ ПРЫНЯТА РАШЭННЕ ПРАВЕСЦІ ЧАРГОВЫ З'ЕЗД ТАВАРЫСТВА Ў САКАВІКУ 1993 ГОДА.***

**У МЕНСКУ ПРАЙШЛА РЭСПУБЛІКАНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ». Найбольш цікавыя матэрыялы з канферэнцыі будуць змешчаны ў бліжэйшых нумарах «Нашага слова».**

***ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ КРАІН СНД У МАСКВЕ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ РБ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ НА ПРЭС - КАНФЕРЭНЦЫІ, АДКАЗВАЮЧЫ НА ПЫТАННІ ЖУРНАЛІСТАЎ АБ ЛЁСЕ САДРУЖНАСЦІ, СКАЗАЎ, што «парушальнікам спакою» ніколі не быў і быць не збіраецца. Наадварот, мае намер рабіць усё, што ад яго залежыць, каб СНД жыла. А ці варта?***

# Ніл ГІЛЕВІЧ: Гэтак званае двухмоўе пераходзіць у рускае аднамоўе

***Выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь***

І з гэтай трыбуны, і ў друку шмат разоў гучалі прапановы зрабіць дзяржаўнымі ў Рэспубліцы Беларусь дзве мовы — апрача беларускай, яшчэ і рускую, і замацаваць гэта ў нашым Асноўным Законе — у Канстытуцыі. Дазвольце выказацца па гэтым пытанні і мне. Напачатку я хацеў бы нагадаць, якое значэнне надавалі мове тыя, што вызначалі і ажыццяўлялі на нашай беларускай зямлі дзяржаўную палітыку.

Сто з чвэрцю гадоў назад духоўны паплечнік Мураўёва-вешальніка, папячыцель Віленскай вучэбнай акругі Карнілаў пісаў, што ў справе абрусення ці русіфікацыі Паўночна-Заходняга краю (г. зн. Беларусі) сто тысяч рускіх штыкоў не зробяць таго, што зробіць адна руская школа. Геніяльна сказана! Лепш выказаць гэту жахлівую ісціну бадай немагчыма. Так, ні 100 тысяч штыкоў, ні 100 тысяч бізуноў ці нагаек, ні 100 тысяч кайданоў ці наручнікаў не зробяць таго, што зробіць адна школа!

Дарэчы, гэту ісціну выдатна засвоіў і прымяніў на практыцы вядомы кіраўнік Польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі. Калі палавіна нашай краіны ў выніку палітычных махінацый дужэйшых суседзяў адышла, паводле ганебнага Рыжскага пагаднення, пад Польшчу — з чаго пачаў на акупаваных беларускіх землях Пілсудскі? З ліквідацыі беларускіх школ. За паўтара дзесятка гадоў ад многіх соцень беларускіх школ на ўсёй вялізнай тэрыторыі Заходняй Беларусі не засталося аніводнай! Паўтараю і падкрэсліваю — аніводнай. Падчыстую ўсе былі пераведзены на польскую мову — каб і напаміну пра Беларусь не было! Дзеля чаго ён гэта зрабіў? Дзеля таго, каб усіх дзетак беларусаў ператварыць у палякаў. Выхаваць чалавека з маленства ў польскай мове, у польскім духу, ды яшчэ абярнуць у каталіцкую веру ды пераканаць, што польскасць вышэй за беларускасць — і ўсё гатова: застаецца перапісаць у пашпарце нацыянальнасць. І толькі. Так і рабілася...

У 30—50-ыя гады зачыняць беларускія школы на Беларусі, а дакладней, перарабляць іх на рускія ўзяліся новыя гаспадары нашага лёсу — валадары Крамля і іх мясцовыя, тутэйшыя апрычнікі. Узяліся так самаахвяра, што калі б не вядомыя перамены ў жыцці, то прайшло б яшчэ гадоў 20—30 — і апошняя б з многіх тысяч беларускіх школ на Беларусі знікла б. Да гэтага ішло — няўхільна і поўным ходам, і ўсе мы з вамі з'яўляемся сведкамі нялюдскага працэсу. А ў імя чаго праводзілася ліквідацыя беларускіх школ на гэты раз? А ў імя ўсё той жа мэты: асіміляваць беларускі народ, для чаго напачатку трэба пазбавіць яго ўласнай мовы, а значыць — уласнага аблічча, вытравіць дарэшты нацыянальную самасвядомасць — і ён трохі-патрохі сыдзе з гістарычнай арэны ў небыццё.

Шаноўныя дэпутаты! Статус адзінай дзяржаўнай надаў беларускай мове Вярхоўны Савет папярэдняга склікання — гэтым ён і ўвойдзе ў гісторыю, хоць на мітынгах дэмакратаў яго называлі кансерватыўным, партыйна-наменклатурным і г.д. Цяпер у гэтай зале выспела іншая ідэя, з якою нашаму Вярхоўнаму Савету прапануецца ўвайсці ў гісторыю, а іменна: адабраць у беларускай мовы статус адзінай дзяржаўнай мовы і тым самым асудзіць яе на далейшы заняпад і прыгнечанне. Нам прапануецца зрабіць гэты замах на родную мову дэмакратычна — прыдушыць яе сваімі рукамі.

*(Працяг на с. 2).*

Горас МАККОЙ

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32 — 46).*

Я ведаў, што ён нахабна маніць. Ён вінен гэтаму буку бабкі — і яшчэ якія. Таму той і званіў яму. І Мандан аж збляднеў, калі падышоў да тэлефона... Я працягваў назіраць за «Б'юікам», прыкідваючы, як лепш зрабіць напад за ўсёй гэтай калатнечы, і нічога людскага пакуль што ў галаву не прыходзіла — у любым выпадку, раз вакол такая процьма народу, усё будзе навідавоку. «Б'юік» спыняўся толькі на людных вуліцах і нават па дарозе ніколі не з'язджаў на спакайнейшыя.

— Пра што ты думаеш, Джынкс? — спытаўся я.

— Пра тое, што гэта вар'яцтва,— зноў прабурчэў ён.

— Я таксама гэтак думаю. Вы разумееце? — павярнуўся я да Мандана.— Трэба пашукаць якоенебудзь іншае месца — дзе ўсе гэтыя грошы сцякаюцца...

— Не,— буркнуў Мандан.— Там народу яшчэ больш...

— Будзем ехаць за імі далей? — спытаўся ў мяне Джынкс.

— Хопіць,— адказаў я.— І так змарнавалі паўдня. Я ўжо зусім спляжаны. Трэба хоць крыху паспаць.

Джынкс пераехаў скрыжаванне і спыніўся за паліцэйскай машынаю, якая стаяла ўпоперак вуліцы, буферам да тратуара, мала не блакіраваўшы праезд. Непадалёк прыпаркаваўся ў забароненым месцы чыйсьці аўтамабіль, і паліцэйскі запаўняў штрафны квіток.

Мы з Манданам звярнулі на гэта ўвагу амаль адначасна, і па ягонай усмешцы я зразумеў, што ў галаву яму прыйшла тая ж самая ідэя, што і мне...

— Я забыўся, што з намі выжлы,— сказаў я.

— Вось-вось,— адказаў Мандан.— Тут і выйсце.

— Патэлефануйце Уэбэру...

— Паехалі да мяне, Джынкс,— сказаў Мандан.

— Чаму да вас? — запярэчыў я.— Тут непадалёку бар. Джынкс, заганяй машыну ў першую дзірку, якую знойдзеш, і прыходзь да нас у бар.

Я выйшаў з машыны.

— Хадземце,— сказаў я Мандану.

Ён выйшаў таксама, і мы перайшлі вуліцу.

— Уэбэр будзе незадаволены,— сказаў Мандан.

— Пляваць мне на гэта. Званіце. І адразу ж прыходзьце ў бар.

Мандан зачыніўся ў тэлефоннай кабіне, а я прайшоў у бар і заказаў вішнёвы напой. Ледзь я зрабіў першы глыток, як прыйшоў Мандан.

— Яго там няма,— сказаў ён.

— І калі, яны думаюць, ён вернецца?

— Яны не ведаюць. Я сказаў ім, каб ён патэлефанаваў мне.

Прыйшоў Джынкс і сеў побач з намі.

— Уэбэра цяпер няма там,— сказаў я яму.— Мандан перадаў ягоным людзям, каб ён яму пазваніў.

— Думаеш, ён пазвоніць?

— Вядома,— адказаў Мандан.

— Добра,—сказаў я.— Прыкладна праз гадзіну я буду дома: мне трэба сёе-тое купіць, прыдумаць яшчэ якуюсь гісторыю, каб растлумачыць Холідэй, чаму мяне не было дома сёння ўначы — нагаварыць што-небудзь пра якуюсь працу, што заняла ў мяне з вамі, Мандан, усю ноч...

— Ёй таксама трэба прыдумаць якуюсь гісторыю,— сказаў Джынкс.

— Што? — спытаўся я.

— Яна сёння дома таксама не начавала.

— І дзе ж яна была?

— Не ведаю. Выйшла ў адзінаццаць і не вярнулася.

— З кім яна была?

— Думаю, з Рысам.

— З Рысам?

— Думаю, з ім. Яна сказала мне, што выйдзе трохі пагуляць. Я выйшаў ціхенька ўслед за ёю, праз чорны ўваход, і ўбачыў, што яна сядае ў тачку на рагу вуліцы. Мне здалося, што за рулём быў Рыс.

— Ну і сука!

— Нішто сабе! — усклікнуў Мандан.— Вы завіхаецеся ўсю ноч, каб зарабіць некалькі долараў гэтай жывёліне, а яна настаўляе вам рогі...

«У рэшце рэшт, падумаў я, мне на гэта напляваць». Я ўжо паспеў зразумець, што Холідэй была адной з тых давалак, якіх нельга пакінуць адных нават на пяць хвілін, бо інакш яны кінуцца на першага прычасанага мопса, які ім трапіцца,— дык што мне дзівіцца? Вядома, я ўявіў, што дараджу ёю, але калі мужчына так доўга абыходзіцца без жанчыны, яму, натуральна, здаецца, што першая ж баба, на якую ён узбіўся, самая файная. Але спакваля кроў астывае, і ён разумее, што ўсе жанчыны аднолькава зладжаныя дзеля ягонага задавальнення, дык і не варта псаваць сабе з-за іх нервы...

У калідоры, каб адчыніць дзверы, я паставіў пакеты з пакупкамі на падлогу. Як толькі я ўвайшоў у кватэру, адразу ж пачуў з ваннай голас Холідэй:

— Гэта ты, Джынкс?

— Гэта я...

— Прывітанне,— сказала яна.

«Шаруйся, шаруйся,— так і захацелася мне сказаць ёй,— змывай з сябе паліцэйскі смурод».

— Добры дзень,— адказаў я.

У спальні я паклаў пакеты на ложак і пачаў разбіраць іх, калі яна выйшла з ваннай, выціраючыся ручніком. Кроплі вады зіхацелі на яе скуры, як раса на лісці. Цела ў яе сапраўды было цудоўнае...

— Процьму грошай, мабыць, патраціў,— сказала яна, гледзячы на пакупкі. Голас у яе быў ветлівы, нават саладжавы.

— І гэта толькі пачатак,— адказаў я.

— А дзе ты ўзяў бабкі? Паставіў што-небудзь?

— Нічога я не ставіў.

Яна села на ложак і ўзяла кардонку з кашулямі.

— Ты можаш не капаць на мае новыя кашулі? — сказаў я.

Яна адклала кардонку ўбок і паглядзела на мяне.

— Не сярдуй на мяне, прашу цябе,— ціха сказала яна.

— Я на цябе зусім не сярдую. Падсмаж мне, калі ласка, трохі хлеба і дай што пажаваць. Страшэнна хачу есці. Малако ёсць?

— Ёсць.

Я прайшоў на кухню, узяў у лядоўні бутэльку малака, наліў у шклянку і пачаў піць.

— Ты не хочаш спытацца ў мяне? — пачуў я за спінаю яе голас.

— Пра што?

На ёй быў адзін ручнік.

— Пра тое, дзе я была сёння ўначы...

— А чаму я павінен у цябе пра гэта пытацца? Гэта значыла б, што мне цікава, што ты робіш.

— Табе стане цікава, калі ты даведаешся, з кім я была...

— Я гэта ведаю...

Яна зусім не здзівілася.

— Не сярдуй, Ральф,— сказала яна.

— Поль,— паправіў я.— І магу табе пэўна сказаць: я зусім не сярдую. Як я буду сердаваць, калі мне на ўсё гэта глыбока напляваць? Што ты ненажэрная, дык гэта я даўно ведаю. Але каб з ганчаком! Ды яшчэ не проста з ганчаком, а менавіта з ім!

— Разумееш, мне трэба было разгаварыць яго наконт справы, якую вы задумалі з Манданам. Я ніяк не магла паверыць, што ўсё так файна, як ты расказаў...

«Добра... Аднак навошта тады класціся ў ложак з гэтай свіннёю?» — падумаў я.

— Што ён можа ведаць,— сказаў я пагардліва,— гэты ідыёт?

— Ты памыляешся. Ён нашмат хітрэйшы, чым ты думаеш...

— Гэта я ўжо чуў. Але Мандан мне і пра Уэбэра багата чаго расказаў. Ты бачыш цяпер, хто такі Уэбэр побач са мною?

— І ён цяпер гэта разумее, і я. І ведаеш, я табе хацела сказаць, што цяпер я вельмі шкадую, што не верыла ў тваю задуму. Цяпер я заўсёды буду верыць у цябе...

— Гэта добра,— сказаў я.— А зараз ты зробіш мне нарэшце што-небудзь паесці?

— І не думай, што паміж намі што-небудзь было. Нічога.

— Я ў гэтым упэўнены...

— Можаш мне паверыць. Клянуся табе памяццю нябожчыка-бацькі...

— Перастань! — не вытрымаў я.

Яна кінула на мяне адчайны позірк.

— Цяпер я шкадую, што не было,— прашыпела яна.

Я вярнуўся ў спальню і зноў узяўся за пакупкі. Усё, што я набыў — і кашулі, і гальштукі, і кальсоны, і шкарпэткі, і чаравікі — наймаднейшым не было, але ўсё ж такі я мог цяпер адзецца і абуцца ва ўсё чыстае і новае. Я купіў яшчэ два касцюмы, але іх трэба было крыху падагнаць пад мяне, і я пакінуў іх пакуль што ў краме, заплаціўшы за падгонку і дастаўку.

— Я суп разагрэла,— крыкнула Холідэй...

Я прайшоў на кухню і сеў за стол. Суп, падсмажаны хлеб, шклянка малака. Я еў і думаў: што ж такое мог ёй сказаць Рыс, што яна паверыла ў мяне, паверыла ў тое, што я падвязаў тут усю паліцыю.

— Ты купіў добрыя рэчы,— сказала яна.

— Так сабе. Хоць чыстыя. Я купіў яшчэ два касцюмы, карычневы і блакітны. Сёння прынясуць... Праз два дні мы зможам купіць усё, што захочам...

— Скажы мне, што вы задумалі?

— Пакуль што не магу. Трэба яшчэ, каб Уэбэр згадзіўся.

— Але як толькі ты запатрабуеш, ён будзе змушаны згадзіцца?

— Вядома. Аднак трэба абгаварыць з ім некаторыя моманты.

— Яшчэ малака?

— Не, дзякуй.

— Табе трэба трохі паспаць.

— Якраз гэта я і збіраўся зрабіць: прыняць ванну і трохі адпачыць...

— Зрабіць табе ванну?

— Дзякуй.

Яна пайшла ў ванную, а я пачаў раскладваць кашулі і кальсоны па шуфлядах шафы.

Прыйшла Холідэй, я пацалаваў яе і шыю і прайшоў у ванную. Толькі я залез у ваду, як увайшла Холідэй з маімі штанамі ў руках.

— Ты і гэта купіў? — спыталася яна, паказваючы мне маленькі залаты ланцужок, прымацаваны да рамяня.

— І гэта.

— А медаль?

— Гэта медаль за заканчэнне універсітэта.

— Твой?

Я сціпла ўсміхнуўся. Я не стаў тлумачыць ёй, як шмат прыйшлося мне займацца, каб зарабіць гэты медаль, колькі я ўсяго ўведаў, каб заслужыць яго.

— Дык ты сапраўды закончыў факультэт класічнай філалогіі?

— Сапраўды. Грэка-лацінскі курс.

Яна апусціла вечка ўнітаза і села.

— А я нядаўна падумала, што зусім нічога пра цябе не ведаю. У якім універсітэце ты вучыўся?

— Табе гэта так важна?

— Табе ж, я думаю, не сорамна назваць яго?

— Мне здаецца, гэта універсітэту павінна быць сорамна за тое, што я яго закончыў. Думаю, мая кар'ера не робіць гонару гэтай шаноўнай установе. Але гэта даказвае толькі адну рэч: я сам выбраў свой лад жыцця, а не маё былое асяроддзе падштурхнула мяне да яго. Я вырас не ў халупе, не з бацькам-п'яніцай і не з маткаю-шляхаю... Я таксама ненавіджу гэтае грамадства, аднак не таму, што мяне так выхавалі. Усе злачынцы, якіх я сустракаў, прафесійныя злачынцы — у нейкім сэнсе слабыя людзі, якія вінавацяць у сваёй знявечанасці грамадства. Я — ніколі!

— Ральф Котэр — гэта не тваё сапраўднае імя?

— Што зменіцца, калі ты ўведаеш сапраўднае?

— У цябе ёсць сям'я?

— Брат у Нью-Йорку.

— Хацела б я яго ведаць. Ён, мусіць, адзіны чалавек, якому ты цалкам давяраеш. Як яго зваць?

— Навошта гэта табе?

— Я ж таксама цікаўлюся гэтым запісам. І на мне вісіць забойства — ці ты забыўся, каго я скасіла, калі ты ўцякаў з Тока?.. Я хацела б ведаць, хто твой брат, каб звязацца з ім, калі штонебудзь здарыцца...

— Калі што-небудзь здарыцца, табе не трэба будзе звязвацца з ім. Усё адпрацавана, як у гадзіннікавым механізме...

— Ты не можаш нават сказаць мне, чым ён займаецца?

— Надта ты ўжо таропкая, дзетка,— усміхнуўся я.— Я цябе не разумею.

— У Рыса з Уэбэрам, мабыць, аж галовы баляць, так хочуць уведаць, што ж за гуз мае гэты запіс.

— Гаварылі яны з табою пра гэта ўчора?

— Няўжо ты думаеш, што я магла...

— Рассцелеш мне ложак? — абсек я яе.

— Паслухай, Ральф...

— Поль.

— Клянуся табе, Поль. Клянуся памяццю нябожчыка-бацькі...

— Дык рассцелеш ты ложак ці не?

Яна ўстала і прытулілася да сцяны.

— Няўжо ты думаеш, што я здатная...

Я схапіў ручнік і сцебануў яе ім па твары.

— Я сказаў табе рассцяліць мне ложак!

— О Божа! Чаму ты такі? — прастагнала яна, выходзячы.

## II

Прыблізна а восьмай гадзіне Мандан падабраў мяне і Джынкса на сваёй машыне на рагу нашай вуліцы. За рулём быў ягоны негр.

— Ледзь пазнаў вас,— сказаў ён мне.— Ва ўсім новым...

— Гэта толькі пачатак,— сказаў я.— Дзе мы сустрэнемся з Уэбэрам?

— У яго ў кабінеце.

— Вы гаварылі яму пра нашую ідэю?

— Што вы! Па тэлефоне ён гэтага не праглынуў бы. І я не ўпэўнены, што праглыне пры сустрэчы.

— Я яго пераканаю... Па сваёй волі, ці пад маім гвалтам, але ён на гэта пойдзе...

— Толькі не наганяйце на яго страху, прашу вас! Заставайцеся спакойным. Гаварыць буду я.

— Ты чуў, Джынкс? — сказаў я.— Гэта і цябе датычыць.

— Чуў,— буркнуў ён.

*(Працяг будзе).*

